dawał? Trzeba samemu dostać!“ — За што-ж я іх дастану, калі ў мяне грошай няма. А бацька дзеля гэтага ня будзе карову прадаваць, бо ведае, што я малады і магу яшчэ без дакумэнтаў гуляць“. — „Co, cholera, ty jeszcze rozmawiasz?! Idźmy na posterunek! My tam dowiemy się, kto ty taki?!“ Скруцілі нявіннаму хлапцу рукі назад і павялі на „posterunek“.

Ня ведаю, чаму, але толькі польская паліцыя мае дрэнны звычай рабіць „dochodzenie“ дарогаю, аб чым яскрава сьведчылі кроплі крыві, сям і там астаўленыя на чыгунцы і яшчэ не зацёртыя нагою паліцэйскага...

Чуць не папаў у гэткую апалу і я, але, заўважыўшы паліцыянта на чыгунцы, я загадзя надумаў, што адказаць яму. Ды вось, пакуль паліцыянт пасьпеў у мяне спытацца: „Stój!“ „Skąd będziesz?!“ — я спакойна адказаў „z tamtej wioski“ і направіўся ў бліжэйшую вёску. Ен толькі цаглядзеў мне ўсьлед, але балей нічога не сказаў, бо я пайшоў „дарогаю“.

Аднак, нішто на сьвеце ня вечнае. Дык і „страшная субота“ скончылася тым, што вечарам прайшоў скоры цягнік са Стоўпцаў на Гарадзею з п. міністрам у асобным вагоне, і ўсе паліцыянты пайшлі так-жа ў Гарадзею, а ўсьлед за імі пашоў і цягнік-бранявік, са Стоўпцаў на Баранавічы.

На станцыі Гарадзея п. міністра чакаў аркестр гарадзейскай пажарнай старожы, які яшчэ ад паўдня два разы ўстанаўліваўся на пэрроне, але кожны раз яго адтуль праганялі кіраўнік станцыі і камандант паліцыі. Аднак за трэцім разам „жыдкі“*) перамаглі і, як толькі цягнік з п. міністрам падыходзіў да станцыі, дык яго сустрэлі „прыемныя гукі“ „polski my naród, polski lud“, чым, пан міністар, відаць, астаўся надта задаволены, бо-ж на некалькі мінут задзяржаў цягнік, каб асабіста падзякаваць музыкантам за чэсьць, аказаную яго „высокапастаўленай“ асобе.

**А. М. Санеўскі.**

## „Пан Панцюшкін страляе людзей“.

(З Гарадзейскае гміны, Нясьвіжскага пав.).

У канцы верасьня гэнага году даўнейшы ўпраўляючы Вялікага двара, Павлюк Сагановіч купіў старую афіцыну ў маёнтку Варацішча, Гарадзейскае гміны, Нясьвіжскага павету ў пана Панцюшкіна. Наняўшы цесьляў у Новай-Вёсцы тае-ж гміны Андрэя Хмяля, Янку Вялянцея і Сьцёпку Вялянцея і др., паслаў іх да пана Панцюшкіна ў Варацішча, каб яны разабралі купленую ім будову. Прышоўшы ў м. Варацішча, старэйшы з цесьлаў Андрусь Хмель пашоў аглядаць будовы, а другія зьвярнуліся да Пана Панцюшкіна папытацца, ці можна разьбіраць. Сустрэўшы яго Янка Вялянцей стаў гаварыць, што Сагановіч нас прыслаў разьбіраць афіцыну, дык ці пан пазволіць гэта рабіць? На гэтае пытаньне пан Панцюшкін, як вар'ят, падскочыў да Янкі Вялянцея і стаў крычаць: „Я вам не парабак! няма мне часу з вамі гутарыць! вон адгэтуль!...“

Пачуўшы крык, Андрусь Хмель хутка падбег на гэную справу і кажа: „Мы ня прышлі тутака крычаць, а папытацца, ці можна разьбіраць афіцыну, а калі ня можна, дык мы пойдзем да дому“. Панцюшкін, як чорт, зардзеўся і, пакінуўшы Янку Вялянцея, сунуўся да морды к Андрусю Хмялю, крычучы: „Ты што за такі зух? Адкуль ты зьявіўся? Хамская твая морда!“ — „Гэтакі самы, як і ты!“—адказаў Андрусь. Панцюшкін хацеў заехаць яму па вуху, але Андрусь ухіліўся ад гэтага манэвру і, схапіўшы з рук у другога цесьля лапатку, кажа: „Ну, цяпер давай папробуем, хто каго адолее“. Пан Панцюшкін аж зьбялеў са злосьці і пабег у пакой крычучы: „Застралю!... Застралю! як сабаку, застралю!...“ Цераз мінуту ён ўжо пёр на Андруся з рэвальвэрам у руках і, падбегшы, упёр пулю ў грудзі Андрусю, ды стаў пытацца: „Кажы колькі цяпер твайго жыцьця!“ Андрусь Хмель с полаху анямеў.... Невядома чым бы гэта скончылася, але сябры Андруся Хмяля ня далі Панцюшкіну даканаць свайго прыгавару.— На гэтым і разышліся, а Андрусь Хмель з перапалаху і цяпер хварэе.

Цікава папытацца у нашых Міністраў, ці пазваляецца паном страляць людзей, як сабак?

**Вялікадворац.**

**Ад рэдакцыі.** І такім шалёным тыпам улада пазваляе мець аружжа?!

## Шуканьне вінавайцаў.

(*З Касоўск. пав.*).

На бандыцкія напады ўлада адказала новаю хваляю тэрору мірнаму, ні ўчым не павіннаму беларускаму народу. У цэлым радзе вёсак зроблены арышты; так у в. Карошчы арыштаваны два чалавека, у Ціжыках адзін і г. д. Пры вобысках шукалі якой-та адзежы — мабыць парток р. Downarowicza...

Але гэта нас ня цікавіць. Цікавіць нас тое, што гэтых ні ў чым не павінных ахвяр бяруць садзяць да „коз“, „пак“ і турмы, „пытаюць“, катуюць, прымушаюць прызнацца да віны.

Так, арыштаванага з в. Карошча Самсона Доўста, Косаўская паліцыя закатавала амаль што не да сьмерці. Білі ўперад шомпаламі па пьятах, потым, палажыўшы ніцма, накрыўшы мяшком, білі ланцугамі; ўрэшце, адзін з паліцыянтаў бярэць за валасы, а другі наганом б'ець па карку.

— Чую, — перадаець ахвяра, — наступаюць мае апошнія мітуты жыцьця, ды думаю: ўсё раўно ўміраць, дый „прызнаюся“, а трэба адзначыць, што за нявіннасьць гэтых людзей можа прысягнуць кожны сумленны грамадзянін нашай ваколіцы — ўсім, што маюць сьвятога.

Вазілі іх яшчэ ў Стоўпцы зьвярацца; што выверылі, ня ведаю...

Мала ўсяго гэтага: па кірмашах ловяць без дакумэнтаў, а каму з нашага народу даюць „dowód osobisty“?

Ды што! І гэтага мала. Бяруць і тых, хто ў чырвонай рубашцы; так, нейкага Рыгора Палонскага, з вёскі Карошча, Косаўская паліцыя пратрымала поў-дня ў арэшці за чырвоную рубашку.

**Маленька Птушка.**

*) У нас, у пажарнай старожы, пераважаюць жыды.

## Дзень за днём.

(*Вёска Була, Косаўск. пав.*).

У вёсцы Була была польская школа (яна і сяньня ёсьць). Сяляне, даведаўшыся аб школьных законах, парашылі ператварыць яе на беларускую. Напісалі адпаведныя паданьні да школьнага Інспэктара, назначыўшы вучыцелем Бірука, таго самага, які вучыў і ў польскай школе. Біруку-ж даручылі падаць паданьне інспэктару, але яно і да гэтага часу дзе-то валяецца ў Бірука. Вельмі-ж яму ня хочацца стаць „прыхільнікам“ беларускае школы ў вачох інспэктара, ды куды-ж! Уперад закрыў беларускую школу ў Хадорках, а сяньня думаець адчыніць? Проста баіцца страціць вучыцельскую пэнсію, ды абманвае сялян. Проста кажучы, яму працаваць толькі з Валэйшаю.

На днях у гэтай школе быў інспэктар, з дзяцей нікога не застаў, бо ніхто ня хоча хадзіць у польскую школу. Аб гэтым Бірук ні слова інспэктару, але пратаколы пісаць на бацькоў то памог пісаць яму.

**М. Балін.**

# Беларусы у Нямеччыне.

(*Ад нашага бэрлінскага карэспандэнта*).

Спасярод беларусаў, пакінуўшых сваю Бацькаўшчыну ў часе вялікай вайны і зьменаў улады, найбольш апынулася ў Нямеччыне. Завялі іх сюды перадусім Мазуры, Карпаты, Вісла; многа вывезьлі немцы на работы, а рэшта — гэта эмігранты з апошніх гадоў.

Сколькі іх тут — точна аблічыць немагчыма, але, бясспрэчна, іх тутака не адна тысяча. Яны распыліліся па ўсей Нямеччыне, і аб іставаньні нейкае арганізаванае беларускае калёніі ня можа быць гутаркі. Нават у Бэрліне нельга знайсьці знакаў беларускага жыцьця. Апошняя спроба самаарганізацыі беларусаў была ў 1921 годзе, калі ў Бэрліне арганізоўваўся „Грамадзкі Камітэт дапамогі галадаючым на Беларусі“. Ну, ды аб ім лепш не гаварыць: на што трывожыць нябожчыкаў?!...

Як відаць, мала каму з нас суджана ізноў прывітаць родныя берагі Нёмна, пакланіцца любым лясам Палесься... Наш удзел — вечная туга па Бацькаўшчыне, цяжкая праца на чужыне, жаданьне неяк забыцца.

Цяжка прызнавацца, ды гэта — так. У свой час шмат жалелі зруйнаваную вайной Польшчу, аплаківалі Бэльгію, але ніхто ні словам не ўспамянуў аб дзікім спусташэньні Беларусі. І толькі сам гаротнік-беларус— пасьля канца вайны — спазнаў сваё гора ў зьнішчанай Бацькаўшчыне. Дый далёка ня ўсім выпала на долю цярпець сваё гора на роднай зямлі.

Расейцы, французы, англічане — усе яны, як скончылася вайна, паселі на цягнікі, параходы і паехалі з палону ў родны свой край, дзе кіпіць новае жыцьцё. Ня тое нашы беларусы: нам уваччу — замест цьвітучае сялібы, пакінутае ў 1914—15 г. г., — сталі магільныя абразы, абразы пустыні, палёў, паросшых ужо лесам. І наш брат глыбака задумаўся, а, падумаўшы, наважыўся „пакуль-што“ астацца ўжо лепш тут, на чужыне...

Але гэнае „пакуль-што“ зацягнулася. І беларусы, параскіданыя па дворных і сялянскіх палёх Нямеччыны, па капальнях і іншых мясцох цяжкое фізычнае працы, пачалі патроху прырастаць да новых месцаў.

Вайна пазбавіла нямецкую вёску многіх здаровых фізычна рабачаяў, маладое пакаленьне йшчэ не здалела заняць іх месца, і нашага беларуса, працавітага і цярплівага, ахвотна трымаюць у панскіх і сялянскіх гаспадарках, на тарфяніках і вінаградніках. Яго можна сустрэць ад Паўночнага мора да межаў Швайцарыі, на раўнінах Памэраніі і на горных склонах Бавары.

Іншыя ўжо пажаніліся і перайшлі ў нямецкае грамадзянства. Нямецкія грамады вельмі працівяцца натуралізацыі (прыняцьцю да свайго складу) чужаземцаў. Але жыцьцё разьбівае мараль грамадаў стаўшыміся фактамі. Утраціўшыя мужоў удовы, засядзеўшыяся ў дзеўках паненкі ахвотна злучаюць сваю долю з сільнымі, працавітымі беларусамі. Нямецкія абычаі ня судзяць вельмі сурова сувязі адзінокае жанчыны з мужчынай. У выніку ж гэткае сувязі бадай заўсёды зьяўляецца на сьвет „факт“, які і разьбівае ўсе пагляды грамады на чужаземцаў. Бывае, аднак, што нават ня гледзячы на „факт“ іншыя грамады так праціўяцца замужству нямецкіх жанчын з чужынцамі, што справа йдзе ажно ў Бэрлін—на разгляд вышэйшых установаў.

Гэтак нашы зямлякі адзін за адным прырастаюць да нямецкае зямлі, пазаўсёды расстаючыся з старой сваей Бацькаўшчынай. Мала па малу яны зусім прысвайваюць чужую мову, а чужая асярэдзіна, чужая культура ператвараюць і душу беларуса на нямецкі лад...

Працякуць гады. Счэзнуць сьляды вайны. Сьціхнуць рэвалюцыі. Пачнецца мірнае культурнае будаваньне новага жыцьця. І пэўне ня раз заправдны немец спаткаецца сярод працаўнікоў на ніве нямецкае культуры з чужым прозьвішчам, якое яму трудна будзе выгаварыць. Гэта і будзе прозьвішча выхаджэнца з Беларусі...

**Янка з Блудня.**

Бэрлін, у верасьні 1924 г.

**ГАННА ВЕРШАК** з Заблочынскай вол., Сьвянцянскага пав., сьляпая і бедная з дочкамі Стасяй і Стэфкай просіць усіх, хто ведаець, **гдзе яе сыны Іван, Баляслаў і Зыгмунт**, паведаміць яе ў г. **Радашковічы, зямлі Віленскай, на імя Сэнатара Уласава.**

Просіць гэтае перадрукаваць у радавых газэтах.

## АБВЕСТКА

Беларуская Рада ў Празе даводзіць да ведама грамадзян-беларусаў, якія прабываюць у Чэхаславакіі, што:

1. Беларуская Рада ў Празе, згодна свайму статуту, з'яўляецца культурна-грамадзкай установай і вядзе ў гэтым напрамку сваю чыннасьць.

2. Рада бярэ на сябе абарону інтарэсаў беларусаў, пражываючых у межах Чэхаславацкай Рэспублікі.

3. Беларусы, жадаючыя ў той ці іншай форме карыстацца дапамогай і заступствам Беларускай Рады, павінны зарэгістравацца ў Канцалярыі Рады.

4. Асобы, жадаючыя прыняць чынны ўдзел у культурна-грамадзкай працы Беларускай Рады ў Празе, могуць, згодна статуту, падаць заявы аб залічэньні іх сябрамі Рады, за рэкамендацыяй 3-х чынных сябраў Рады.

5. Заявы аб рэгістрацыі і аб залічэньні сябрам Рады прыймаюцца штодзеньне ў Канцалярыі Рады ад 9 да 13 гадзіны; часова, — па адрэсу:

**Прага II, Венцігова 4 ў п. Вершыніна.**

Сэкрэтар **А. Дыліс.**

14 Кастрычніка 1924 г.
м. Прага.

3—2



**ГУЗЬНЕЯ ЯКАВА** шукае брат яго, Ісідар Гузьней, які знаходзіцца ў Амэрыцы.

Просьба, хто ведае пра Якава Гузьнея, пасьлаць адрас ці вестку аб ім па адрасу:

**M-r Guzney. Russian Sos. Nauka 315 E. 10-ch St. New-York, N. Y. U. S. A.**



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**. Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.